Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# Беларускі Звон

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Ліпоўка № 28.

Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год — 6 зл., за паўгоду—3 зл., за 3 месяцы — 2 зл., за 1 месяц — 75 гр.

Год I. Вільня, 30 Сьнежня 1931 г. № 25

# „ЦЭНТРАСАЮЗ“ і ЯГО ПРАЦА.

*(Зьмест справаздачы прэзыдыуму на сэсіі Галоўнае Рады 27 сьнежня 1931 г.).*

## Чаму паўстаў „Цэнтрасаюз“?

Аб неабходнасьці існаваньня цэнтральнае беларускае грамадзкае арганізацыі, якая кіравала-бы нашым нацыянальным жыцьцём, асабліва-ж культурнай і эканамічнай працай беларусаў пад Польшчай, ня трэба шмат гаварыць: гэта ясна само сабой. Але асаблівая неабходнасьць стварэньня такое цэнтралі выявілася з магутнай сілай у той цяжкі і сумны для нас пэрыяд, які пачаўся пасьля зьліквідаваньня ўладамі Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. Масы, якія ў сувязі з грамадаўскім рухам усюды пачалі варушыцца і арганізоўвацца, як нацыянальна-сьвядомая сіла, — раптам утрацілі сваіх павадыроў. І месца гэтых павадыроў, працаваўшых зусім яўна і адкрыта, заняла падпольная камуністычная арганізацыя, каторая зразу-ж пачала барацьбу з праявамі нацыянальнага усьведамленьня масаў і творчай культурна-нацыянальнай працай. Адзіны-ж даўнейшы агульна-нацыянальны цэнтр — Беларускі Нацыянальны Камітэт — раскалоўся яшчэ за часоў Грамады, і гэтую найпаважнейшую некалі беларускую грамадзкую ўстанову беларускія хадэкі, бясправна захапіўшы яе „фірму“, ператтварылі ў сваю партыйную экспозытуру. Дык ня дзіва, што ў беларускім грамадзянстве пачаўся разбод, пачался ідэйная анархія, у сувязі з якой масы, яшчэ так нядаўна гатовыя на найцяжэйшыя ахвяры дзеля беларускае справы, вярнуліся ізноў у стан ідэйнага і маральнага заняпаду, — так, як было да Грамады.

## Задачы Цэнтрасаюзу.

Усё гэта і прымусіла тыя беларускія культурныя і гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы, якія сваёй задачай лічаць *творчую працу дзеля падняцьця культурнага роўня і матэрыяльнага дабрабыту беларускіх масаў*, згуртавацца пад сьцягам *Цэнтрасаюзу*. Так паўстаў новы беларускі грамадзкі цэнтр, які зразу-ж распачаў акцыю абароны нашых культурных арганізацыяў і ўстановаў, каторым нанасіліся ўдары з рожных бакоў — і чужымі, і „сваімі“.

## Акцыя за звальненьне грамадаўцаў.

Але — яшчэ перад фармальным стварэньнем Цэнтрасаюзу — група ініцыятараў яго распачала крокі ў тым кірунку, каб вярнуць грамадзянству жывыя беларускія сілы, адарваныя ад нашага жыцьця і працы суровым прыгаворам суда, які судзіў справу Грамады. Тварцы Цэнтрасаюзу дужа добра зразумелі, што падстава арганізацыі Грамады была нацыянальная, і толькі камуністычная партыя старалася пазбавіць яе гэтае падставы ды выкарыстаць дзеля сваіх пасітычных мэтаў, — дык і думалі яны, што выхад на волю павадыроў Грамады паложыць канец палітычнай спэкуляцыі на беларускай справе ды ўзмацуе наш культурны фронт. На жаль, усе стараньні вызваліць Грамаду з-за кратаў разьбіваліся аб няздольнасьць палітычна мысьліць у адных, ці аб сьвядомую правакацыю з боку другіх. Урэшце былі звольнены перад канцом адбываньня кары чатыры сябры Цэнтральнага Камітэту Грамады— Тарашкевіч, Мятла, Рак-Міхайлоўскі і Бурсэвіч — ды юрысконсульт арганізацыі Акіньчыц, далёкі ад ідэйнага кіраўніцтва Грамадою. Уся-ж шэрая маса грамадаўцаў, атрымаўшых па тры-чатыры гады катаржнае турмы, мусіла адбыць кару да канца.

## Выбары ў Сойм.

Беспасярэдна пасьля свайго ўканстытуваньня, Цэнтрасаюз выступіў з другой акцыяй, меўшай, як і першая, характар палітычны. Справа ў тым, што ў канцы 1930 году мелі адбыцца новыя выбары ў Сойм і Сэнат. Ужо наперад было ведама, што выбары адбудуцца ў дужа непамысных для беларусаў варунках, — і арганізацыйны зьезд Цэнтрасаюзу загадаў сваёй нова-выбранай Галоўнай Радзе, каб яна выступіла перад беларускім грамадзянствам з прапазыцыяй утварэньня адзінага беларускага выбарнага фронту, як гэта было зроблена з такімі бліскучымі вынікамі ў 1922 годзе. На вялікі жаль, проці гэтага праекту рашуча выступілі і камуністы, і хадэкі, і да ўтварэньня адзінага выбарнага фронту не дайшло. І гэта, — ведама, побач з цэлым радам другіх прычын,—дало такі вынік, што з беларускіх выбарных сьпіскаў не прайшоў ніводзін дэпутат. Але трэба адзначыць, што маральная перамога дасталася Цэнтрасаюзу: на кандыдатаў яго было пададзена больш галасоў, чым на ўсе іншыя беларускія сьпіскі, хаця Цэнтрасаюз прыступіў да выбарнае акцыі бяз грошы й бяз арганізацыі. Тыя дванаццаць тысяч выбаршчыкаў-беларусаў, якія галасавалі за Цэнтрасаюз, ня гледзячы на пужаньне з рожных бакоў, — гэта ўжо запраўды сьведамыя сваіх абавязкаў перад сваім народам грамадзяне, гэта людзі, якія зразумелі, што ў сучасных варунках (—дый у ўсякіх іншых) без бясспыннае творчае працы, бяз творчае барацьбы — няма беларускага пытаньня наагул. І ў выясьненьні гэтага нашым масам—заслуга Цэнтрасаюзу і тае прэсы, якая разьвівае ягоную ідэалёгію.

## Культурная праца.

Ураз-жа пасьля так сумна закончанае выбарнае акцыі Цэнтрасаюз прыступіў да закладаньня па вёсках бібліатэк-чытальняў, якіх у хуткім часе паўстала 16 — ня гледзячы на сталую нястачу грошы на гэту работу. Цэнтрасаюз-жа ўзяў на сябе выдаваньне гэтак неабходнае для нашага сялянства сельска-гаспадарчае часопісі п. н. „Саха“, вельмі добра рэдагаванае, якая выходзіць што-месяц. Быў зроблены пачатак наладжаньня лекцыяў на вёсцы; на жаль, і тут нястача матэрыяльных сродкаў не дала шырака разьвіць лекцыйнае акцыі,—тым балей, што тагачасны сэкрэтар Цэнтрасаюзу, „ведамы“ Акіньчыц, яўна сабатаваў кожнае культурнае пачынаньне Цэнтрасаюзу, а выдалены з апошняга—распачаў адкрыта акцыю, скіраваную на развал усіх культурна-асьветных установ і арганізацыяў, аб'яднаных у Цэнтрасаюзе.

## Змаганьне за школы.

Асаблівую ўвагу Цэнтрасаюз зьвярнуў на справу беларускіх прыватных гімназіяў, існаваньне каторых было ўсьцяж пад паважнай пагрозай. Прост гэроічныя высілкі былі роблены дзеля ратаваньня Клецкае Гімназіі, якую адміністрацыйныя ўлады пастанавілі зьліквідаваць. На жаль, высілкі гэтыя сваей мэты не дапялі. Адначасна даводзілася бараніць існаваньне Віленскае ды Наваградзкае гімназіяў, якім уладамі была спынена дзяржаўная дапамога грашмі, а лічба этатаў з 6 зьменшана да 3 для кожнай. Характэрна, што ў найбольш рашучы мамэнт, калі Віленская гімназія трымалася толькі дзякуючы самаахвярнасьці беларускіх вучыцялёў, атрымліваючых меншыя пэнсіі, чым просты кур'ер ці стораж, — у гэты мамэнт прадстаўнікі хадэкаў у Бацькоўскім Камітэце патрабавалі аддаць гімназію ў рукі Акіньчыца; калі-ж вялізарная большасьць бацькоў на гэта ня прыстала, хадэкі адмовіліся ўвайсьці ў склад Бацькоўскага Камітэту і нічым не дапамаглі гімназіі, перакінуўшы цяжкі абавязак здабываньня грошы для гімназіі выключна на Цэнтрасаюз. І Цэнтрасаюз, як і раней, гэту цяжкую задачу выпаўняе.

## Дапамога студэнтам.

Урэшце, Цэнтрасаюз, бачучы цяжкое матэрыяльнае палажэньне беларускіх студэнтаў, дабіўся дзяржаўнае дапамогі для Белар. Дабрадзейнага Т-ва на стыпэндыі для незаможнае студэнскае моладзі. На жаль, ад восені 1931 году дапамога гэтая аказалася спыненай. Студэнскі Саюз, бачучы гэта, зрабіў спробу дабіцца помачы ад хадэцкага „Нацкому“; але там, замест запраўднае дапамогі, студэнтаў пачалі карміць нячыстай „палітыкай“, пробуючы адначасна здабыць на гэту мэту грошы ад... аб'яднаных у Цэнтрасаюзе ўстаноў і арганізацыяў! Цэнтрасаюз на гэта, ясна, не пайшоў, а саматугам прыступіў да наладжаньня таннае сталоўкі для бяднейшых студэнтаў, якая і пачне сваю працу ў пачатку 1932 г.

## Выдавецтва.

У пачатку-ж 1932 г. Цэнтрасаюз пастанавіў узнавіць лекцыйную акцыю на вёсцы і распачаць хоць у вузкіх межах выдавецкую працу. Апрача выданьня Цэнтрасаюзам Календара на 1932 год, намечана выдаваньне асобных кніжачак „Сялянскае бібліатэкі“ — сельска-гаспадарчага, грамадзкага і популярна-навуковага зьместу.

## Выступленьні перад польскім грамадзянствам.

Ясна, што дзейнасьць Цэнтрасаюзу можа разьвіцца шырака толькі тады, калі адносіны дзяржаўных уладаў да беларускага пытаньня наагул будуць абаперты на пэўнай пазытыўнай праграме, якая гадзіла-бы слушныя імкненьні і патрэбы беларусаў з разумна панятымі інтарэсамі дзяржавы. Каб дабіцца выпрацоўкі гэткае ўрадавае праграмы, кіраўнікамі Цэнтрасаюзу быў праведзены цэлы рад гутарак і конфэрэнцыяў з прадстаўнікамі польскага грамадзянства і зроблены два выступленьні дэкляратыўнага характару. Апошняя — з даручэньня Цэнтрасаюзу — было зроблена грам. Р. Астроўскім. Найбольш поўна і ўсебакова гр. Астроўскі паставіў справу беларускіх патрэбаў і дамаганьняў у сваім рэфэраце, прачытаным у гэтак-званым „Klubie Społecznym“ у Вільні. Зьмест яго каротка тут падаем.

## Чаго мы дамагаліся.

Адзначыўшы сумныя факты варожых да беларусаў адносінаў да-маёвых урадаў, выказаўшы ўсе балячкі беларускае людунасьці, гр. Астроўскі даказаў, што віной гэтаму ёсьць адсутнасьць пазытыўнае ўрадавае праграмы ў беларускім пытаньні, і трэбаваў выпрацоўкі яе. У аснову такое праграмы мусіць быць пакладзена *запраўднае прызнаньне за беларусамі права на разьвіцьцё сваей культуры і дапамога ў гэтым з дзяржаўнага скарбу*, бо-ж беларусы разам з усімі напаўняюць гэты скарб, плоцячы падаткі. Мусяць быць здаволены дамаганьні вёскі роднае школы ўсюды, дзе складаліся гэткія дэкларацыі, а ў першы чарод—на кожын павет павінна быць бездакладна адчынена прынамся адна добра пастаўленая беларуская сямігодка. Трэбуючы для беларускіх гімназіяў такое дзяржаўнае дапамогі, каб вучні не пачувалі сябе пакрыўджанымі, гр. Астроўскі востра выступіў проці зачыненьня ўладамі Клецкае гімназіі, дамагаючыся ў далейшым — прызнаньня беларускім вучыцялём урадавых кваліфікацыяў, трэбуючы беларусізацыі віленскае праваслаўнае духоўнае сэмінарыі, увядзеньня прадметаў беларусазнаўства ў каталіцкай сэмінарыі, заснаваньня катэдры беларусазнаўства пры віленскім унівэрсытэце і г. д. У галіне гаспадарчай — выставіў дамаганьне шырокага тасаваньня да беларускіх сялян падатковых ільготаў і ўсялякіх крэдытаў, сярод паўпу балючую справу асадніцтва і інш. У канцы адзначыў неабходнасьць зьмены адносінаў адміністрацыі да беларускіх сялян, у якіх, дзякуючы махінацыям розных палітычных правакатараў, урадоўцы бачаць часта „бальшавікоў“,—аздараўленьня адносінаў у самаўрадах і злучэньня ўсіх ваяводзтваў з беларускай людунасьцяй у адну адміністрацыйную адзінку, як зачатак аўтаномнае арганізацыі беларускіх зямель.

## А выніку ня відаць...

Гэты рэфэрат выклікаў шмат гутарак і разважаньняў і быў паўтораны на рэгіональным зьезьдзе паслоў і сэнатараў Беспартыйнага Блёку супрацоўніцтва з урадам. На жаль, аб тым, каб урад прыступіў да выпрацоўкі гэткае пазытыўнае беларускае праграмы, да канца 1931 г. ня было чутно.

Перачытаўшы газэту — перадай другому.

# Японска-Кітайскі канфлікт.

Ужо больш, як 5 тыдняў, як Рада Лігі „радзіць“ у справе зьліквідаваньня „канфлікту“ паміж Японіяй і Кітаем, а запраўды: крывавага нападу першай на другога, — але дагэтуль яшчэ неяк не дала рады з магутнай мілітарна Японіяй.

За гэты час, як гэта ні дзіўна, „сымпатыі“ Рады Лігі, ці прасьцей кажучы—кіруючых ёй вялікіх дзяржаваў, поруч з Амэрыкай, усьцяж перахіляюцца ў бок Японіі. Прычынаў гэтага зьявішча—шмат. Ліга Нацыяў як-быццам гневаецца на Кітай за тое, што той, ухіляючыся дагэтуль ад вайны з Японіяй і даверыўшы цалком свой лёс Лізе Нацыяў, тым самым толькі змушае яе выяўляць перад усім сьветам яе поўнае бясcільле... Лігу быццам страшэнна дражніць ужо „няўступлівасьць“ Кітаю, які цьвердзіць, што пойдзе на ўсялякія перагаворы дый уступкі толькі пасьля таго, як Ліга змусіць Японію ачысьціць ад сваіх войскаў кітайскую зямлю... Але гэтага якраз і ня хоча зрабіць Японія, якая яўна зацягівае перагаворы ў Лізе, каб мець час падрыхтаваць канчальны захват Манджурыі. У такіх варунках „праца“ Лігі толькі ашуківае пацярпеўшага ад гвалтоўніка сябру Лігі.

2 сьнежня Рада Лігі апрацавала канчатковы праект рэзолюцыі, якая трэбуе, каб Кітай (!) і Японія зрабілі ўсё, каб было магчымым у найбліжэйшым часе вывядзеньне японскіх войскаў з акупаванай кітайскай тэрыторыі. Рэзолюцыя кажа далей аб стварэньні „дасьледчай камісіі Далёкага Усходу“ (ня толькі адной Манджурыі — як і трэбавала Японія, дамагаючыся спыненьня байкоту японскіх тавараў у-ва ўсім Кітаі...). Камісія мае быць зложана з 5 сяброў, у тым ліку па адным прадстаўніку Кітаю і Японіі. Камісія мае мець права ў кожную хвіліну прадставіць Радзе свой даклад аб палажэньні на Усходзе — дзеля безадкладнага яго разгляду, калі сьцьвердзіць, што тая ці іншая з старонаў нарушыла сваё прырачэньне. Рэзолюцыя кажа ў канцы, што старшыня Рады мае права склікаць яе на новую надзвычайную сэсію, калі знойдзе ў гэтым патрэбу.

Кожны пункт рэзолюцыі мае „тлумачэньні“, ці ўвагі, даданыя яму старшынёй Рады Брыянам і зацьверджаныя Радай. У тлумачэньнях гэтых Брыян кажа, што Рада Лігі прыдае вялізарную вагу найхутчэйшаму вываду японскіх войскаў з кітайскай зямлі, але, з другога боку, кажа і аб неабходнасьці забясьпечаньня ў акупаванай японцамі Манджурыі ладу і парадку—проці шалеючага там паўсюдна бандытызму...

Далейшы ход дыплёматычных і ваенных падзеяў у японска-кітайскім конфлікце ідзе тым часам старым крывавым шляхам.

10 сьнежня японскі ўрад прыняў рэзолюцыю Рады. Дэлегат Японіі ў Лізе заявіў Радзе, што Японія трэбуе толькі прызнаньня права баравіць сваіх грамадзян і маемасьці ў Манджурыі ды дзеля таго ачышчаць край ад „бандытаў“... Ведама-ж „бандытам“ для Японіі зьяўляецца ўсякі, хто працівіцца загадам японскіх акупантаў.

12.XII японскі ўрад падаўся ў адстаўку. Прычына адстаўкі—незадаваленьне ўрадам з боку магутнай ваеннай партыі, якая трэбуе рашучых крокаў—захвату ўсей Манджурыі.

14.XII новы прэм'ер заявіў, што новы габінэт „будзе вясьці тую-ж палітыку, як і яго папярэднік, стараючыся з усіх сілаў забясьпечыць японскія інтарэсы ў Манджурыі“.

17.XII складзена „манджурская камісія“ Лігі Нацыяў — з прадстаўнікоў Францыі, Нямеччыны, Італіі, Амэрыкі і Англіі — пад старшынствам англійскага генэрала Літтона. Камісія мела „ў хуткім часе“ (?) выехаць на тэатр вайны, але калі яна даедзе, няведама.

17.XII—весткі з Токіо кажуць, што ў хуткім часе спэцыяльна скліканая новым урадам „конфэрэнцыя вялікіх князёў“ Японіі мае пастанавіць, а японскі імпэратар зацьвердзіць—прыняцьце пад высокую ахову Японіі „незалежнае манджурскае дзяржавы“... Японскія газэты пішуць, што з гэтым усім трэба пасьпяшыць, каб „сувэрэнныя ўлады новай дзяржавы“, прыняўшы гасьцінна „манджурскую камісію“ Лігі Нацыяў, не дапусьцілі яе аднак-жа да працы...

18.XII—рэгулярныя войскі кітайцаў поруч з атрадамі партызанаў перайшлі ў наступленьне ў раёне паўднёва-манджурскай чыгункі — проці слабейшых сілаў Японіі. На падмогу высланы японскія самалёты.

19.XII японскі ваенны міністар заявіў, што (ня гледзячы на пратэсты Амэрыкі і на японскае прырачэньне Лізе Нацыяў) японская армія „змушана“ заняць аружнай сілай Цінг-Чжоў (важны стратэгічны пункт Манджурыі), бо ў раёне паміж Цінг-Чжоў і паўднёва-мандж. чыгункай знаходзіцца звыш 100 тыс. кітайскіх войск, партызанаў і бандытаў, якія трэба „выпхнуць“ з краю...

18.XII ў Токіо аддана амэрыканская нота, якая рашуча напамінае японскаму ўраду аб трактаце 9 дзяржаў (аб непарушнасьці граніцаў і незалежнасьці Кітаю) і аб трактаце Кельлёга...

21.XII вестка з Масквы кажа, што японская армія распачала шырокае наступленьне—з мэтай заняцьця Цінг-Чжоў і ачышчэньня Манджурыі ад кітайскіх войскаў. Узяцьце Цінг-Чжоў прадбачана на 25.XII.

23.XII. Чанг-Кай-Шэк заявіў аб сваім выхадзе ў адстаўку, каб даць магчымасьць прымірыцца ды аб'яднацца ўсім крылам Куомінтангу дзеля арганізацыі нацыянальнай абароны ды аб'яднаньня Кітаю.

23.XII. У Мукдэне адбылася конфэрэнцыя „аўтаномных“ провінцыяў Манджурыі, якая абвясьціла незалежнасьць Манджурыі — у „саюзе“ з Японіяй...

23.XII японскі ваенны міністар заявіў, што заняцьце Цінг-Чжоў будзе... апошняй ваеннай опэрацыяй японскіх войскаў у Манджурыі. Пасьля гэтага Японія будзе толькі... ачышчаць край ад „бандытаў“ і рабіць у ім добры парадак. Войскі-ж японскія астануцца ў Манджурыі толькі датуль, пакуль гэтага будуць вымагаць... японскія інтарэсы ў Манджурыі (карацей кажучы: на век...).

23.XII. Нота амэрыканскага ўраду да Японіі кажа, што ў Амэрыцы заняцьце Цінг-Чжоў лічылася б „найбольш годным суму крокам японскай арміі“. У той-жа дзень японскі камандзір манджурскай арміі паслаў Чанг-Сульянгу ультыматум, трэбуючы аддаць яму бяз бою Цінг-Чжоў, пагражаючы інакш узяць яго з бою.

24.XII. Нанкінскі ўрад даў—замест Чанг-Су-Лянга—адказ японскаму камандзіру, адмовіўшыся аддаць яму Цінг-Чжоў ды дадаўшы, што ультыматум Японіі пярэчыць пастанове Лігі Нацыяў.

## Працэс 57 словенскіх дзеячоў у рымскім „трыбунале“.

4 сьнежня начаўся ў Рыме вялікі працэс 57 словенцаў. Акт абвінавачаньня закідаў падсудным стварэньне змовы — у паразуменьні з нявыкрытымі агентамі суседняй дзяржавы — у мэтах адарваньня ад Італіі значнай часьці яе тэрыторыі, населенай словенцамі, і далучэньня яе да Югаславіі. У гэтых мэтах падсудныя „тварылі ваенныя арганізацыі, зьбіралі склады аружжа, падрыхтоўвалі аружнае паўстаньне, імкнучыся аднaчасна да правакаваньня вайны паміж Італіяй і Югаславіяй, і т. д. Падсудным далей закідалася: выдаваньне procідзяржаўных часопісаў, дакананьне тэрорыстычных актаў, практыкаваньне шпіёнства і д. т. п. Акт абвінавачаньня пералічае падрабязна рад гэтых актаў тэрору, дакананых у працягу 4 гадоў—пасьля таго, як у 1927 г. былі зачынены ўладай усе гэтыя арганізацыі, але процідзяржаўная акцыя італьянскіх словенцаў ня спынілася, а схавалася толькі за розныя быццам культурныя ўстановы. На чале ўсяго руху стаялі 2 студэнты: Рэеч і Енчыч.

Які знаёмы абраз... Сколькі ўжо такіх працэсаў—дакладна па тэй самай схэме — наглядалі мы за мінулыя гады пасьля вайны, калі новымі, праведзенымі мячом пераможцаў, граніцамі былі то там, то тут парэзаны—з іх нацыянальнымі тэрыторыямі — жывыя народы, прызнаныя пакульшто „недзяржаўнымі“, значыцца — і ня маючымі права на вольнае, самастойнае, чалавечае жыцьцё... Сколькі такіх працэсаў адбылося за гэтыя гады ў Эльзасе — нямецкае „меншасьці“, ў Югаславіі—баўгарскай і македонскай, у Літве—польскай, у Латвіі — беларускай і польскай, у Румыніі (—Бесарабіі)—украінскай і расейскай меншасьцяў, у Італіі—нямецкай у Тыролі і цяпер — словенскай у правінцыі Вэнэцыя-Джулія. Ня кажам ужо аб працэсах савецкіх дый аб тых, якія адбываліся на беларускай тэрыторыі...

І ўсюды—адна схэма. Усюды — з боку меншасьцяў — зразумелыя імкненьні ня зрываць сувязі з братамі, адрэзанымі ад іх дзяржаўнымі граніцамі, а перадусім—імкненьні да поўні культурна-нацыянальнага жыцьця на падставе волі і роўнасьці з валадарамі дзяржавы, з якой зьвязала іх доля. Усюды — з боку гэтых дзяржаваў — імкненьне забіць у гэтых „сваіх“ частках парэзаных ды падзеленых народаў пачуцьці іх нацыянальнага адзінства з закордоннымі братамі, спыніць паміж імі ўсялякую сувязь, усялякія зносіны, разглядаючы апошнія, як праступленьне, бачучы ўжо згары ў гэтым—і „змову“, і „шпіёнаж“, і „адарваньне“ і „далучэньне“... І ўсюды пэўне-ж для хутчэйшага разгрому ўсялякай сілы, надзеяў і веры ў будучыну сярод гэтых зьбянтэжаных меншасьцяў—у мэтах іх хутчэйшага „ператраўленьня“ новай дзяржавай—вялізарную ролю адыграла правакацыя, прытым блізу ўсюды — правакацыя з абодвух бакоў: з боку абедзьвюх дзяржаваў, паміж якімі падзелены на часткі гэтыя парэзаныя жыўцом народы. І мы ведаем, што слаўная Ліга, гэты шляхотны „абаронца“ ды „ахоўца“ ўсіх гэтых меншасьцяў даваў дапамогу толькі тым меншасьцям, якія мелі за сабой апору ў роднай ім па крыві вялікай дзяржаве. Рэшта меншасьцяў дагэтуль пакінена Лігай на волю лёсу дый на ласку тэй дзяржавы, у якую гэты лёс іх уключыў.

Працэс трываў 2 дні; у выніку — 16 падсудных асуджаны на заключэньне ў турму ад 2 да 20 гадоў. Рэшта—апраўдана з прычыны недаказанасьці віны. „Мяккасьць“ прысуду, неспадзяваная ў фашыстаўскім „судзе“, зрабіла сэнсацыю.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Новыя падаткі.

Узнавіўшы ў палове сьнежня сваю працу, парлямант — у прысьпешаным тэмпе—прыняў усе законапраекты ўраду, ўнесеныя яшчэ ў лістападзе, але адложаныя з прычыны адтэрмінаваньня на 30 дзён працы Сойму.

З пяцёх падаткавых праектаў ураду адзін толькі, зьмяняючы закон аб падатку ад абароту, дае палёгку падатніку; рэшта — 4 праекты — накладаюць на яго новыя цяжары. Але, як высьветлілася з дыскусіі, і новы закон аб падатку ад абароту, зьмяншаючы агульную суму падатку блізу напалову, перакладае значную частку яе з мацнейшых слаёў насяленьня на слабейшыя.

Новэля да кватэрнага („лёкалёвага“) падатку павялічывае яго разьмер з 8 прац. да 12 прац., выключаючы толькі кватэры меншыя, як 3-пакаёвыя. З гэтага падатку самаўрады будуць атрымліваць толькі 4 пр.; $5^{1}/_{2}$ пр. пойдзе на фонд разбудовы местаў (на будову новых дамоў) і $2^{1}/_{2}$ пр. прызначаны на кватэры для жаўнераў. Трэці закон падвышае падатак на ўласьнікаў нярухомасьцяў — з 7 да 12 прац., ад тае сумы, якую яны атрымліваюць ад кватэрантаў. Чацьвёрты закон накладае дадаткавы падатак на электрычнасьць—у разьмеры 10 пр. рахункаў за сьвятло—на карысьць беззработных. Урэшце, пяты закон накладае спэцыяльныя падаткі на нотарыусаў, судовых каморнікаў і гіпотэчных пісароў.

Як падае прэса, урад мае правясьці праз Сойм яшчэ рад іншых падаткаў на суму звыш 30 мільёнаў злот. Маюць быць падвышаны падаткі з віна і піва, з дрожджаў, падвышаны зборы „стэмплёвыя“, з вэксалёў і з цывільных судовых справаў.

## Заграніцай.

### Змаганьне Францыі з Нямеччынай—у справе адшкадаваньняў.

У швайцарскім месьце Базэлі засядае конфэрэнцыя фінансавых экспэртаў (знаўцаў), якая мае мэтай зноў дакладна вывучыць фінансавыя магчымасьці Нямеччыны, каб маючая сабрацца ў палове студня 1932 году новая конфэрэнцыя ў справе адшкадаваньняў магла вырашыць пытаньне: ці можа плаціць Нямеччына паводле пляну Юнга, ці сплаты маюць быць адтэрмінаваны, ці навет — скасаваны?

Ясна з гэтага, якая страшэнная палітычная барацьба ідзе за плячыма гэтых фаховых рэчазнаўцаў. Францыя цьвёрда стаіць на груньце нязьменнасьці пляну Юнга, згаджаючыся толькі на адклад сплаты, ці на прадоўжаньне т. зв. „мораторыуму“. Нямеччына стаіць на тым, што трэба ізноў пераглядзець грунтоўна ўвесь плян дый „вырашыць канчальна справу адшкадаваньняў“, што — паводле тлумачэньняў усей нямецкай прэсы—азначала-бы скасаваньне цалком усялякіх адшкадаваньняў, якіх нямецкі народ і ня можа, і ня хоча больш плаціць. Нямецкая прэса піша, быццам англійскія і італьянскія рэчазнаўцы так сама прыхіляюцца да нямецкіх пагляду. Францыя мае ў камісіі знаўцаў быццам большасьць галасоў, але галасы гэтыя больш „лёгкія“: бэльгійскія, югаслаўскія і т. д.

Камісія ў гэтым асноўным пытаньні ня здолела дайсьці да згоды. Апрацавана толькі формула, якая сьцьвярджае фактычны стан фінансавага палажэньня Нямеччыны, якое справядліва уповажняе яе да дамаганьня адтэрмінаваньня сплатаў.

Сільным ударам для нямецкіх надзеяў на поўнае скасаваньне адшкадаваньняў былі пастановы парляманту і сэнату Амэр. Злуч. Штатаў, адкідаючыя ўсялякія ўступкі ды палёгкі ў справе ваенных пазыкаў пераможцам, бо гэта, ведама, робіць блізу немагчымым скасаваньне нямецкіх адшкадаваньняў, з якіх значныя сумы ідуць якраз на пакрыцьцё гэтых саюзьніцкіх даўгоў Амэрыцы.

### „Трактат аб ненападаньні“ між Францыяй і СССР.

Сэнсацыяй бягучага дня ў Эўропе зьяўляецца перадчасна апублікаваны адной з францускіх газэтаў быццам падпісаны прэлімінарна яшчэ 29 жніўня савецка-францускі „трактат аб узаемным ненападаньні“. Перегаворы аб трактаце вяліся ў вялікай таёмнасьці, дык ня дзіва, што апублікаваньне трактату выклікала сэнсацыю. Сярод францускай правіцы трактат выклікаў выбух абурэньня. Бо-ж § 4 яго абавязывае абедзьве стараны аднолькава ўстрымлівацца ад усялякай пропаганды ды агітацыі: СССР—ад проці-францускай, а Францыю—ад процісавецкай. Такім чынам, піша француская прэса, Францыя ня толькі будзе прымушана забараніць у сябе ўсялякую палітычную акцыю расейскай эміграцыі, але навет — высяліць усю яе найбольш актыўную частку з сваіх рубяжоў. „Ці не залішне далёка йдзе гатоўнасьць Францыі ў ахове крывавага савецкага ладу і руйнуючай увесь сьвет комуністычнай гаспадаркі

